# Ніва

ТЫДНЁВІК ГПБГКТ

№ 51 (877) ГОД XVII БЕЛАСТОК 17 СНЕЖНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.





(ПАЕЗДКА ПЕРШАЯ)

Рашыў я пераканацца, ці цяжка ў нас украсці трактар.

Добры злодзей да таго, як сягне па чужую ўласнасць, найперш праводзіць дакладную разведку. Дык і я адпраўляюся ў камандзіроўку. Каб было болей бяспечна, прашу да кампаніі прадстаўніка ваяводскай камендатуры грамадзянскай міліцыі — капітана Зігмунта Перуна і прадстаўніка ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў — інспектара Генрыка Занеўскага.

Найперш спыняемся недалёка за Беластокам — у міжгуртковай машынна-трактарнай базе Рафалоўка. 22 трактары. Столькі быць павінна. Сапраўды ёсць 17, бо чатыры ўжо дашчэнту растрэсліся на полі, а адзін цягнік на чыгуначным пераездзе.

Вартасць маёмасці, якая знаходзіцца ў распараджэнні рафалоўскай базы, перавышае 7 мільёнаў злотых.

«Ці лёгка сюды забрацца для нажывы?» — думаю, разглядаючыся па пляцоўцы, агароджанай драцяной сеткай і забудаванай тыповымі будынкамі. Ці лёгка? Не, бадай не, бо дагэтуль, як гавораць працаўнікі базы, не здараліся пакражы. На першы позірк усё тут нібы ў парадку. Трактарныя бульбакапалкі і плугі роўным радам стаяць пад плотам, частка з іх ужо закансервавана перад іржаўчынай, ланцугі зняты, іншыя сельскагаспадарчыя прылады таксама недзе прыхаваны.

Аднак... аднак у прыкметах гэтай гаспадарнасці ёсць недзе невідочная для вока трэшчына. Бо як растлумачыць, што на механізацыйных паслугах рафалоўская МБМ «зарабіла» чуць не 100 тысяч страт?

У кузні сустракаю механіка Мечыслава Высоцкага.

— Ці ёсць у вас дзе памыцца, або пераапрануцца? — пытаю яго. Ён глядзіць на мяне са здзіўленнем, быццам не разумеючы, пра што яго пытаю. У яго вачах чытаю адказ: « Бач, прыпёр сюды нейкі гарадскі пан ды выгад шукае!»

— Вось у чым мы мыемся! — паказвае ён вялікую закопчаную міску. — Там, у лужыне, набіраем вады ў гэтую міску, падаграваем яе на кавальскай топцы і... мыемся, а пераапранаемся ўжо дома...

(Працяг на стар. 4)



*Механік Мечыслаў Высоцкі з МБМ Рафалоўка ў Беластоцкім павеце рыхтуе сабе ваду да мыцця.*

*фота М. Скіба*

# У МАЛЕНЬКІМ ПГР-ы

Калі ўваходзіш на панадворак ПГР-у ў Валілах, што ў Беластоцкім павеце, а пасля трапляеш у малюсенькі пакойчык яго «бюра», дзе на якіх 10 квадратных метрах цесняцца працаўнікі, наведвальнікі, пісьменныя сталы, шафы, і даведваешся, што ў гэтай гаспадарцы ўсяго толькі 627,6 га сельскагаспадарчых угоддзяў і працуе на іх 38 чалавек — спачатку здаецца, што нічога тут цікавага і паказальнага не знойдзеш. От, такі сабе маленькі ПГР-чык, якіх у нашым ваяводстве многа. І тады раптам паяўляецца пытанне: «А як жа ж у такім звычайным ПГР-ы працуюць і жывуць людзі, як гаспадараць і якія вынікі іх працы?»

У пакойчык гэты заходзіць па справах даярка Яўгенія Тарасевіч, заглядае брыгадзір Станіслаў Буцько, над раскладзенымі дакументамі працуе старшы бухгалтар, але зусім маладзенькая гадамі Галіна Дзярманская.

Слова за словам, і даведваюся, што Я. Тарасевіч — гэта майстар свае справы. Працуе на малочнай ферме ўжо восем год, даглядае 25 кароў, надоі малака добрыя, а самая найлепшая — гэта карова № 47, што дае ў год звыш 4000 літраў малака з высокім працэнтам тлушчу. Праца пры каровах нялёгкая, бо і накарміць, і ачысціць, і падаіць трэба пунктуальна і з дбайнасцю. Амаль увесь дзень, пачынаючы ад 3—4 гадзіны раніцы і да 8 вечара, праўда — з перапынкамі, усё на нагах. Найгорш выкідаць гной, бо на ферме пакуль што няма аўтаматычнага транспарцёра. Але Я. Тарасевіч не наракае — зарабляе яна ў месяц 4000—4500 зл. Муж, што працуе тут жа трактарыстам, атрымлівае каля 3500 зл. У сям'і двое дзяцей, кватэра добра абсталявана.

— З кватэрамі ў нас бяда, — заўважае дырэктар ПГР-у Андрэй Крычка, які ўрываецца на момант у «бюро», прыехаўшы з далёкага ўчастка гаспадаркі ў Пілатоўшчыне, каб зараз жа ехаць на нейкую нараду ў Беласток. — Але неўзабаве прыступаем да пабудовы 2 шматкватэрных дамоў. Будзе ў іх 16 прасторных кватэраў з павышаным стандартам. Людзі ў нас працавітыя і салідныя. У мінулым годзе ПГР наш даў 278 000 злотых чыстага даходу, найбольш — з малака, раслінай прадукцыі, ну, і рыбы. Толькі вось

(Працяг на стар. 4).



*Брыгадзір С. Буцько пры сваім любімцы — камбайне «Бізон».*



*Ідзе дакладная сарціроўка насеннай бульбы.*

# БГКТ ХРОНІКА

■ 27 лістапада адбыўся пленум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. На пачатку старшыня аддзела Мікалай Гайдук зрабіў справаздачу аб дзейнасці аддзела ў апошнім перыядзе, а затым намеснік старшыні Уладзімір Паўлоўскі выступіў з дакладам аб заданнях аддзела ў святле VII з'езду БГКТ. Як даклад, так і дыскусія ўдзельнікаў пленума была ў асноўным сканцэнтравана на працы клуба ў горадзе Беластоку, які вядзе вялікую культурна-асветную дзейнасць. Шчыра выказаны былі дасягненні і недахопы, а таксама прадстаўлены новыя напрамкі працы. Між іншым, многа гаварылася аб працы з моладдзю, аб мерапрыемствах для дзяцей і для старэйшага заслужанага пакалення. Прысутныя падкрэслівалі вялікія выхаваўчыя вартасці савецкіх фільмаў, якіх, на іх думку яшчэ замала высвятляецца ў памяшканні ГП. Сакратар аддзела Зося Стаськевіч, інфармуючы аб плане працы на зімовы сезон, успомніла аб зацікаўленні наведвальнікаў клуба конкурсам на беларускую песню, да якога ўжо запісалася 12 чалавек.

У пленарным пасяджэнні аддзела прынялі ўдзел намеснік старшыні ГП Юрка Валкавыцкі і сакратар ГП Янка Зенюк.

■ Пленум варшаўскага аддзела БГКТ быў прысвечаны арганізацыйным справам і задачам аддзела ў святле пастаноў VII з'езду БГКТ.

Адбыліся перавыбары прэзідыума аддзела. І так, старшынёю аддзела выбраны Аляксандр Баршчэўскі, намеснікам старшыні — Мікалай Данілюк, сакратаром — Віктар Швед і членамі прэзідыума — Міхась Шаховіч і Янка Здановіч.

Пасля гэтага сакратар аддзела Віктар Швед выступіў з дакладам аб задачах аддзела, якія вынікаюць з пастаноў VII з'езду БГКТ. У дыскусіі выступіла 7 чалавек, якія дэкларавалі сваю дапамогу і ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах аддзела. А мерапрыемстваў план дзейнасці прадбачвае шмат, між іншым, шырэйшыя кантакты з Беласточчынай, арганізацыю літаратурнага гуртка, літаратурныя вечарыны, сустрэчы, працу з дзецьмі, «навагодні баль» у Прымасоўскім палацы, ёлку для дзяцей і т.д.

Галоўнае праўленне прадстаўляў на пленуме Янка Зенюк. (мх)




Нядаўна ў Белавежы адбылася нарада прадстаўніц жаночых калектываў пры СОП-ах. Не многія, мабыць, ведаюць, што пры СОП-ах існуюць жаночыя калектывы. Як падкрэслівалася на нарадзе, жанчыны — члены СОП, гэта значыць жанчыны, якія маюць у ашчадна-пазыкавай спулдзельні ўласныя ашчадныя кніжачкі, з'яўляюцца вельмі саліднымі плацельшчыкамі. Працаўнікі СОП з поўным даверам пазычаюць жанчынам вялікія сумы, з поўным даверам адносяцца таксама да тых спраў, дзе жанчыны выступаюць у ролі паручыцеля. Жанчыны вельмі сур'ёзна трактуюць фінансавыя справы, лепш ад мужчын шануюць грошы, больш салідна адносяцца да ўсіх тэрмінаў сплат.

Жанчыны — члены СОП складаюць каля 1/4 усіх членаў. Шмат жанчын ужо цяпер з'яўляецца членамі сопаўскіх рад, кіруюць грамадска-выхаваўчай працай у жаночых калектывах.

Ашчадна-пазыкавыя спулдзельні маюць права і нават абавязаны прызначаць штогод пэўную суму грошай на грамадска-выхаваўчую працу ў асяроддзі. Там, дзе жанчыны — члены СОП актыўна супрацоўнічаюць і з усім жаночым асяроддзем вёскі, і з кіраўніцтвам пляцоўкі СОП — там вынікі працы вельмі добрыя.

На нарадзе ў Белавежы жанчыны і мужчыны — кіраўнікі вясковых пляцовак СОП расказвалі аб тым, як арганізоўвалі на час жніва і капання бульбы вясковыя дзяцінцы, пазней курсы па вядзенню хатняй гаспадаркі, курсы спецыяналізацыі ў птушка- ці свінагадоўлі. СОП прызнала грошы на аплочванне інструктараў.

Але не ва ўсіх пляцоўках прызначаныя грошы былі адпаведна выкарыстаны. Напрыклад, да 15 лістапада ў Нараўцы і Кляшчэлях жанчыны не атрымалі на грамадскую працу ні граша, хоць запланавана было на гэта ў Нараўцы 3 тыс. зл, а ў Кляшчэлях — 2 тыс. зл. Трэба сказаць, што гэта вельмі малая сума. Іншыя пляцоўкі прызналі на гэтую мэту значна больш. Але, як выявілася на нарадзе, жанчыны гэтых мясцовасцей нічога не ведалі аб існуючых грошах і не маглі нічога

(Працяг на стар. 5)

## ВЯЛІКІ КОНКУРС




### УЗБЕКСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Узбекская ССР паўстала і была прынята ў Саюз ССР 27 кастрычніка 1924 г. Тэрыторыя рэспублікі — 447,4 тысяч кв. км, насельніцтва — 12 мільёнаў 526 тысяч чалавек, сталіца — горад Ташкент. У склад Узбекскай ССР уваходзіць Каракалпакская Аўтаномная ССР.

Паверхня вельмі разнастайная: тут знаходзіцца значная частка пустыні Кызылкум, абшырная дэльта ракі Аму-Дар'і, паўпустыннае плато Усцюрт, астанцавыя горы Султан-Уіздах, Тымдытаў, Букантаў, Кульджуктаў, а таксама прадгор'і і часткі храбтоў Цянь-Шаня і Паміра-Алая. Сярод гор знаходзяцца ўраджайныя і маляўнічыя даліны, а ў пустыні — аазісы. Клімат рэзка кантынентальны — лета гарачае і сухое, а зіма халодная, воблачная і маласнежная.

У Бухарска-Хівінскім раёне знаходзіцца адна з самых вялікіх залежаў газу на свеце, газ знойдзены таксама ў Ферганскай даліне, ля возера Аральскага, на Усцюрце. Нафта знаходзіцца ў Ферганскай даліне, на поўдні рэспублікі і ў Каракалпакіі, вугаль — у адгалінаваннях Гісарскага горнага хрыбта, золата — у ваколіцах Мурунтаў. У Алмалыкскім раёне шмат руды медзі, цынку і волава. У Узбекскай ССР знаходзяцца таксама значныя залежы руды вальфраму і шэраг іншых карысных выкапняў.

Ва Узбекскай ССР працуюць 54 вялікія машынабудаўнічыя заводы.

Узбекская ССР займае першае месца ў СССР па збору бавоўны, якой было пастаўлена дзяржаве ў 1971 годзе 4 мільёны 510 тысяч тон, а таксама каракулевых скурак, натуральнага шоўку, лубяных культур; другое месца па вытворчасці рысу і трэцяе — па вытворчасці раслiннага алею.

У рэспубліцы ёсць акадэмія навук і 148 навуковых устаноў, працуе 9234 агульнаадукацыйных школ розных тыпаў, 168 сярэдніх спецыяльных школаў, 39 вышэйшых навучальных устаноў, у якіх навучаецца звыш 234 тысяч студэнтаў, ёсць 24 прафесіянальныя тэатры, радыё, тэлебачанне, кінастудыя. Выходзіць 349 газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў.

(мг)




## Савецкая многанацыянальная

Прабываючы нядаўна ў Маскве, мне давялося даволі шырока пазнаёміцца з тамашняй прэсай. Пабыў я і ў рэдакцыі «Праўды», і «Известий», сустракаўся з журналістамі «Сельской жизни», «Дружбы народов», тасціў у абласной газеце «Призыв» ва Уладзіміры, а таксама гутарыў з галоўным рэдактарам раённай газеты «Камунар» у Пераяслаўі Залескім.

У Савецкім Саюзе зараз 8,5 тыс. розных газет. — Чаму ж так многа? — задасць пытанне не адзін з чытачоў. Вядома, што вялікая краіна павінна мець многа газет хаця б па той прычыне, што свае газеты выдаюць вобласці і раёны. Але не толькі гэта.

На развіццё савецкай прэсы трэба глянуць з пункту гледжання гісторыі. Калі 50 год таму назад паўстаў СССР, сітуацыя выглядала зусім інакш. Многія нацыянальнасці не толькі не мелі сваіх газет, але ўвогуле не мелі сваёй пісьменнасці. Існавала толькі вусная мова. Савецкая ўлада стварыла для іх алфавіт і навучыла карыстацца ім. Дапаможнікам у гэтым стала нацыянальная прэса. Прэса мусіла таксама мабілізаваць людзей да індустрыялізацыі краіны.

Гаворачы пра гісторыю прэсы, нельга не адзначыць, што ў 1916 годзе ў царскай Расіі газеты і журналы выходзілі на 15 мовах, а зараз у Савецкім Саюзе газеты выходзяць на 58 мовах народаў СССР, а ў тым ліку на 18 мовах народаў, якія да Кастрычніцкай рэвалюцыі не мелі сваёй пісьменнасці. Большасць газет у нацыянальных рэспубліках выдаецца на мове карэннага насельніцтва (Эстонія — 88 прац., Латвія — 92 прац., Грузія — 91 прац., Арменія — 95 прац., Украіна — 87 прац.).

Аб многанацыянальным характары савецкай прэсы хай сведчыць і тое, што ў РСФСР, напрыклад, газеты выходзяць на 39 мовах народаў Савецкага Саюза; у Грузіі — на абхазскай, азербайджанскай, армянскай і другіх мовах, ва Узбекістане на казахскай, каракалпакскай, таджыцкай мовах і т. д. Усё гэта дзеля таго, каб людзі маглі чытаць на сваёй мове.

Аднак часта чуецца пытанне: чаму ў паасобных рэспубліках выходзяць газеты на рускай мове? Праміну ідэалагічны сэнс гэтага пытання. Проста інакш трэба трактаваць чалавека, які не ведае сітуацыі, а інакш тых, хто за кожную цану хоча раскалоць садружнасць народнасцей і нацый пражываючых у Савецкім Саюзе.

Усе нацыянальнасці Савецкага Саюза дабраахвотна выбралі рускую мову як мову міжнацыянальных кантактаў і супрацоўніцтва. Руская мова стала ўсенароднай для ўсіх рэспублік Савецкага Саюза. Каб не быць галаслоўным, прывяду прыклад. Хтосьці падлічыў, што Ангарскую ГЭС будавалі людзі 56 нацыянальнасцей. Ці можна сабе ўявіць кіраванне імі, сужыццё, каб кожны з іх размаўляў на сваёй мове? А такіх будоўляў было і ёсць шмат. Руская мова стала аб'ектыўна другой уласнай мовай.

У гэтым пераканаліся ў пэўнай меры і мы. Што ж былі б мы варты ў размове з грузінам, ці літоўцам, калі б ні яны, ні мы не ведалі рускай мовы? Нашы сябры — журналісты з Чэхаславакіі, Венгрыі, ГДР і Балгарыі, калі б не руская мова, не маглі б з намі дагаварыцца. А трэба памятаць, што ў Савецкім Саюзе такая сітуацыя — штодзённасць.

І так нават за кароткі час пабыўкі ў СССР і знаёмства з гэтай праблематыкай не цяжка прыйсці да вываду, што на працягу 50 год стварылася ў Савецкім Саюзе новая гістарычная супольнасць, супольнасць многанацыянальная, якая ствараецца тады, калі народы развіваюцца ў аднолькавых сацыяльна-культурных умовах.

*А. Карпюк*




## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### МЯСА Ў ВЭКАХ

Каб мясныя кансервы былі трывалыя, неабходна іх старанна і чыста падрыхтаваць. Перад тым, як палажыць мяса ў вэкі, трэба яго абварыць ці абсмажыць. Варыць вэкі велічынёю аднаго літра адну гадзіну сорак мінут, паўлітровыя слоікі варыць адну гадзіну дваццаць мінут. У летні перыяд слоікі праз 24 гадзіны неабходна паварыць другі раз.

Калі слоікі ўжо астынуць, праверыць, ці ўсе яны шчыльна закрытыя, пасля чаго вынесці ў піўніцу і паставіць іх так, каб не даходзіла да іх святло. Варта праз нейкі час праверыць, ці слоікі не адкрыліся.

### ГУЛЯШ У ВЭКАХ

Дробныя кавалкі мяса абсмажыць на моцна разагрэтым тлушчы, дадаць соль, перац па смаку. Гарачае мяса палажыць у слоікі. На патэльню з рэштай тлушчу ўліць некалькі лыжак вады, закіпяціць, даліць ёю слоікі, закрыць слоікі і адразу ўставіць іх у ваду ды гатаваць.

### БОЧАК (ГРУДЗІНКА) У ВЭКАХ

Бочак абварыць у пасоленай вадзе з прыправамі (перац, англійскае зелле, лаўровы лісток). Звараны бочак парэзаць на палоскі, скруціць іх і паставіць цесна ў слоіках. Дапоўніць слоікі вадой, у якой абварваўся бочак. Слоікі закрыць, варыць іх.

### НОЖКІ ЦІ ГАЛАВІЗНА Ў ВЭКАХ

Ножкі ці кавалак галавы зварыць з валашчынай і прыправамі, павымаць косці, дробна нарэзаць. Слоікі-вэкі напоўніць мясам і булёнам, у якім яно варылася, закрыць, варыць іх.

### СХАБОВЫЯ КАТЛЕТЫ Ў ВЭКАХ

Схаб або мяса з шынкі парэзаць упоперак валокан на катлеты, абсмажыць на тлушчы, палажыць у слоікі. З застаўшагася на патэльні тлушчу і вады зрабіць соус, пасаліць яго, дапоўніць слоікі, закрыць іх, варыць.

### КАЎБАСА Ў ВЭКАХ

Свежую, нядаўна зробленую каўбасу парэзаць на кавалкі вышынёю слоіка і шчыльна ўставіць у слоікі. Наварам з варанага мяса даліць слоікі, закрыць іх і варыць у каструлі.

### ПАШТЭТ У ВЭКАХ

На паштэт можна ўзяць кілаграм мяса, 0,30 кг саланіны і падгарля, 0,5 кг вантробы, сэрца, 2—3 сушаныя грыбкі, 1 цыбуліну, 2 яечкі, соль, перац, 15 дэкаў чэрствай булкі. Мяса, сэрца, падгарле, разам з грыбамі і цыбуляй зварыць у малой колькасці вады. Калі мяса ўжо будзе мяккае, дадаць нарэзаную на кавалкі вантробу, варыць нядоўга. У астуджаны мясны соус палажыць булку. Мяса і размочаную булку прапусціць тры разы праз мясарубку, дадаць яечкі, прыправы, добра вымяшаць. Масу складваць у слоікі, выгладжваць яе зверху, пасля чаго слоікі закрыць і паставіць у каструлю для варкі.

*Гаспадыня*

## Беларуская літаратура

## ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

### КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ЧАСТКА VII

Барацьба з існуючай грамадскай і палітычнай сістэмай — гэта адна з найбольш істотных праблем публіцыстыкі Каліноўскага. Аўтар выразна хоча накіраваць сялянскі гнеў і пратэст і супраць памешчыкаў, і супраць царскай сістэмы. «Ад маскаля і паноў, — пісаў Каліноўскі, — нема чаго спадзевацiся, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства над намі хочуць» («Мужыцкая праўда» № 1).

У сувязі з тым, што частка сялянства ў далейшым звязвала надзеі з царскімі рэформамі і маніфестамі, Каліноўскі стараўся вызваліць сялянскую псіхіку ад ілюзій, ад наіўнай веры ў высакароднасць царскіх намераў.

«...Нам не маніфестаў, а вольнасці патрэба, — і то вольнасці не такой, якую цар хочэ даці, но якую мы самі мужыкі паміж сабою зробімо, а для таго, дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужэ толкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабом мужык яго дастаць можэ» («Мужыцкая праўда» № 3).

Адзінства сялянства, яго згуртаванне ў барацьбе гэта справы, важнасць якіх безупынна падкрэслівае Каліноўскі. Такім чынам, сялянства, у перакананні Каліноўскага, мае быць галоўнай сілай у барацьбе з царскай сістэмай. Праўда, у некаторых фрагментах сваёй публіцыстыкі Каліноўскі дапускае думку аб удзеле ў антыцарскім руху памешчыцтва, аднак удзел гэты можа быць магчымы толькі тады, калі памешчыкі падпарадкуюць свой удзел сялянскім інтарэсам. «Возьмемсе, дзецюкі, за рукі, — гаворыць Каліноўскі, — і дзержэмсе разам! А калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай жэ робяць па святой справядлівасці: бо калі іначай — так чорт іх пабяры! Мужык пакуль здужае трымаць косу і сакеру, бараніць свабоды патрапіць і нікога ласкі прасіць не будзе. («Мужыцкая праўда» № 1).

З вышэй прыведзенай цытаты відаць, што арганізаваны Каліноўскім сялянскі рух быў у аднолькавай ступені небяспечны як для рускага царызму, так і для польскага памешчыцтва.

Канчатковай мэтай руху, які ініцыяваў Каліноўскі, было разбурэнне існуючай сістэмы і вызваленне, якое Каліноўскі атоесамліваў з уласнай сялянскай зямлёй і з асабістай свабодай.

«Мы сягоння ўсе ўжэ ведаем, — пісаў Каліноўскі, — што чалавек вольны гэто, калі мае кусок сваёй зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані памешчыку не служыць, калі плаціць малыя падаткі і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніць сваго краю, і то тады толькі, калі які непрыяцель падыйдзе, калі робіць усенько, што спадабае і што не крыўдзіць блізнего і хвалы боскай — і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды і прадзеды, от што вольносць значыць» («Мужыцкая праўда» № 3).

Каліноўскі быў перакананы, што існаванне царскай сістэмы і вялікай зямельнай уласнасці побач сялянскай свабоды — немагчыма.

«...Мужык пачуў вольнасць, — гаварыў Каліноўскі, — а мужыцкая вольнасць гэта ўсё роўна, што шубеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцелей чарода» («Мужыцкая праўда» № 4).

Пан і цар — гэта для Каліноўскага сінонімы таго ж самага антынароднага зла. Цар, піша Каліноўскі, у паноў пытаў сотні разоў, якой яны хочуць свабоды, але ў сялян не спытаў ні разу. Адзіным выхадам з існуючай сітуацыі, быў бунт, была рэвалюцыя. «Дзецюкі, па даброці да ладу не дойдзем» («Мужыцкая праўда» № 5).

Вядомы дзеяч студзеньскага паўстання А. Гілер у сваёй кнізе так характарызуе погляды Каліноўскага на характар паўстання:

«Пры першай сустрэчы даказваў, што ўдзел шляхты і землеўласнікаў у паўстанні не толькі не патрэбны, але нават шкодны. Народ сам дабудзе незалежнасць і ад землеўласнікоў запатрабуе ўласнасці».

(A. Giller, Historia Powstania Narodu Polskiego. Paryż 1867, t. II, s. 222).

Праўда, ў «Мужыцкай праўдзе» з цягам часу Каліноўскі ўсё менш падкрэслівае патрэбу барацьбы з памешчыцтвам і ўсё больш акцэнтуе патрэбу змагання з царскай сістэмай. Было гэта вынікам націскаў на Каліноўскага з боку правых важакоў паўстання.

У сёмым нумары «Мужыцкай праўды», які вышаў ужо ў часе студзень-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГАДАВІНЫ

Сёлета ўрачыста адзначаецца 90-ая гадавіна з дня нараджэння Якуба Коласа. Не без рэха яна прайшла і ў Бельскім беларускім ліцэі. Тут група вучаніц з класа IVa: Аляксеюк Н., Давідзюк Г., Галёнка М., Гурба., Гуральчук І., Ільяшук А., Юрчук Г., Нявінская Р., Самоцік О. — падрыхтавала 3 лістапада, якраз у гадавіну дня нараджэння паэта, на ўрачысты апэль даклад, з якім выступіла Лена Давідзюк, і мантаж паэзіі вялікага песняра Беларусі. Выступленне дзяўчат дазволіла прысутным шырэй глянуць на жыццёвы і творчы шлях паэта.

* ✲ *

У нашым ліцэі таксама адзначана 55-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. На ўрачыстасці выступілі трэція класы. Трапна быў падабраны рэпертуар. Выступленне нядоўгае, але заключала ў сабе інтэнсіўную праграму. Больш абшырнай будзе акадэмія ў снежні, якая рыхтуецца з нагоды 50-годдзя паўстання СССР.

*Прозвішча і адрас вядомы рэдакцыі*




### «ЖУРАЎЛІ, ЖУРАЎЛІ...»

Жураўлі, жураўлі,
Не ляціце туды,
Не ляціце за горы, мора
У нязнаны, далёкі край.

Жураўлі, жураўлі —
Падарожжа сябры,
Смутна без вас, сумна... і шкада,
Зноў аддзеліць, браты, нас зіма.

Жураўлі, жураўлі —
Родных ніў песняры,
Вашай песні не чуць нам ізноў
Над палямі, крыніцай лясной.

Жураўлі, жураўлі,
Зноў вярніцесь сюды:
У радзіму, краіну сваю...
— Да спаткання! — я вам гавару.

*Георгій Баена*
*Бельскі беларускі ліцэй*

### МАЯ ХАТА

Ты жывеш ужо колькі год,
А знаеш ты сваю хатку?
Сонца ідзе ў агарод
І грэе зямельку-матку.

На зямлі, на сырой стаіць
Мая хатка прыгожая
Шанаваць яе і любіць —
Галоўная мэта мая.

У хатцы дні ціха ідуць
На стале хлеб і да хлеба,
І ўсе дзверы тут вядуць,
Дзе ісці нам ёсць патрэба.

*Аня Дзянісюк*
*Плёскі*

---

скага паўстання, Каліноўскі пісаў: «Падумайце добра, да памаліўшыся богу станьма дружно за нашу вольносць. Нас цар ужо не падмане, не падвядуць маскалі, няма для ніх у нашых сёлах ні вады ні хлеба — для ніх мы глухі і немы, нічога не бачылі і не чулі, а пакуль сёння пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі да з косамі, там дзе дабіваюцца волі да праўды» («Мужыцкая праўда» № 7).

Колькі ж болю, колькі пераканання і веры ў святую справу барацьбы за волю і незалежнасць свайго народу ўлажыў Каліноўскі ў свой апошні зварот да беларускага народу — у зварот, напісаны ўжо ў царскай турме — быць можа на некалькі дзён перад смерцю.

«Ты аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за сваго бога, за сваё права і за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчыну. Для цябе ўсё можно, нож, сакера, атрута: гэта твае спосабы, бо табе, як таму мужыку невольнаму, беспраўнаму не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога не можна, а калі народы заграначныя з дзіва разінуўшы рот скажуць — шалёныя, адкажы, што яны таму прычынай, што ты, Народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленне цяжкім грэхом ляжэ». (Пісьмо з-пад шубеніцы).

## КРАМА Ў ДУБІЧАХ

Крама ў Дубічах Царкоўных цяпер карыстаецца добрай славай і павbooжаннем. Працуюць тут Міхась і Ірэна Ахімюкі. Ірэна таргуе ў спажывецкім аддзеле, а муж яе ў «жалезным».

Крама багата рознымі таварамі: ёсць тут усе неабходныя прылады да розных сельскагаспадарчых машын, як гаворыцца, ад матацыкла да іголкі. Пануе чысціня і парадак. Міхась Ахімюк дбае, каб нічога ў яго аддзеле не бракавала. Ні ў якім выпадку, гаворыць, не дапушчу да таго стану, які тут панаваў да майго прыходу, калі тут працавала ляніваяі недысцыплінаваная прадаўшчыца, калі тут амаль нічога не было.

Таксама ў спажывецкім аддзеле цяпер іншы парадак. Сяляне дачакаліся і рыбы, і каўбасы, і іншых спажывецкіх тавараў. Хаця каўбаса не так часта бывае ў продажы, але гэта не віна прадаўшчыцы. Бо калі ў Кляшчэлях яе няма, дык і ў Дубічах не будзе: адтуль прывозяць тавары. Але І. Ахімюк дбае, каб усе неабходныя тавары былі ў яе аддзеле і вельмі часта высылае ў ГС у Кляшчэлі свае заказы і рэкламацыі.

*М. Панфілюк*

## ЗАЗЕЛЯНЕЕ НАША ВЁСКА

Сёлета прадпрыемства «Лес» прыслала ў Грэдалі самаход з саджанцамі таполяў. Актыўны ўдзел у зазеляненні вёскі прымалі школьнікі і гурток ЗМВ. Калі вырастуць таполі, будзе прыгожа ў нашай вёсцы.

*Наглядальнік*




Дарагое «Сэрцайка!»

Мне 27 гадоў. Мае бацькі жывуць на вёсцы, а я закончыў тэхнікум і працую ў горадзе. Маю добрую пасаду. Хутка атрымаю спулдзельчую кватэру і тады думаю ажаніцца. А дзяўчыну я ўжо маю. Нядаўна атрымала яна працу ў прэзідыуме ГРН у нашай вёсцы і тады я з ёю пазнаёміўся. Якраз быў я ў водпуску. Спадабалася яна мне вельмі. Цэлы месяц з ёю правёў. Праляцеў час, як маланка, і прышла пара вяртацца мне ў горад. Сустракаюся я з Галінкай (так завецца мая дзяўчына) толькі ў суботы і нядзелі. Цяжка мне без яе. Аднойчы ў суботу, калі спяшаўся я з цягніка да Галінкі, ішла са мной жанчына з вёскі. І вось яна навеяла сум на маю душу, сапсавала мой добры настрой. Ідзем мы разам, а яна і кажа мне: «Ты спяшаешся да Галінкі, а яна, відаць, па табе і не сумуе. З дзяўчатамі і хлопцамі цэлымі вечарамі рагоча. У клуб ды на вечарынкі бегае. Іншага, мусіць, мае!» Сэрца маё трывожна забілася. «Няўжо праўда?» — падумаў я. То такая дзявочая вернасць! Думаў ужо не ісці да яе, ды і не глядзець у яе бок. Аднак не ўстрымаўся. Вечарам зайшоў. Галінка, як заўсёды, прывітала мяне сардэчна і ветліва. Але я ўжо такі не быў, як заўсёды. Галінка заўважыла гэта. Пытала, у чым справа. Ужо думаў выскажу ўсё, што на душы накіпела, але ўстрымаўся. Так і ад'ехаў назад. Аднак не маю спакою, мучаюся. Не ведаю, «Сэрцайка», ці добра зрабіў, што затаіў усё гэта перад ёю. Мо пры наступным спатканні высказаць усё і хай яно будзе апошнім. Але ж я так кахаю Галінку! Што рабіць? Чакаю тваёй, «Сэрцайка», парады.

*Сярожа з Б.*

*Сярожа!* Здзівілася я вельмі, што ты адукаваны, паважна думаючы аб жыцці і не такі ўжо ж малады хлапец пераняўся бабскімі плёткамі. На жаль, плёткі з'ява даволі частая на вёсцы. Але ці ж яны маюць парваць вашае супольнае шчасце? Плюнь ты на гэта! Жыць трэба сваім розумам! А што Галінка пойдзе з дзяўчатамі і хлопцамі ў клуб ці на вечарынку — нічога дрэннага. Яна ж маладая дзяўчына і не будзе сядзець у чатырох сценах, адарваная ад свету, чакаючы спаткання з табой. Цяпер моладзь на вёсцы цікава і культурна ўмее правесці вольны час, а разам з ёю і Галінка. Ты зайздросны, разумею цябе. Няма ж кахання без зайздрасці. Але хай яна не будзе празмернай і беспадстаўнай!

*«Сэрцайка»*

## ДОБРАЯ РАБОТА

*Сельскагаспадарчы гурток у Слойцы, Сакольскага павету ў 1972 годзе засеяў 50 гектараў аўса, 12 гектараў грэчкі і 12 гектараў лубіну. Авёс, нягледзячы на тое, што пашкодзіў яго град, даў 13 цэнтнераў з гектара. На гэтай зямлі аднаасобнікі не вырошчвалі больш чым 10 цэнтнераў з гектара.*

Сёлета сельгасгурток пачаў працу на зямлі дзяржаўнага фонду. Гурткоўцы пасеялі жыта на плошчы 100 гектараў. Зямля, якую ўзяў сельгасгурток, вельмі камяністая. Трэба было шмат папрацаваць, каб яе адпаведна падрыхтаваць. Найперш пазбіралі каменне, потым узаралі, талежавалі, спранжынавалі. Хто праходзіць каля гэтай зямлі, кожны скажа: добрая работа. Дагледжана зямля лепш, як свая.

А. С.

## ЗАЦІКАЎЛЕННЕ ВЕЧАРЫНАМІ БЕЛАРУСКАГА КЛУБА

Аддзел культуры Прэзідыума ГРН у Беластоку выдаў «Інфармацыйны бюлетэнь святкавання 50-годдзя СССР» у горадзе.

У ім праграма працы ўсіх беластоцкіх гарадскіх клубаў. Знаходзім тут і багатую праграму святкавання 50-годдзя ў клубе Беларускага таварыства на Варшаўскай 11.

Формы, якія прадставіў беларускі клуб, выклікалі зацікаўленне іншых клубаў. Клуб работнікаў пасмантэрыі і клуб ВРН наладзілі ўжо кантакты з беларускім клубам, каб некаторыя вечарыны ён арганізаваў таксама ў іх. Найбольш зацікаўлення выклікаюць вечарыны савецкай паэзіі і песні. (вл)

## ВЕСТКІ З ДЗЕЙНАСЦІ БРАТНЯЙ АРГАНІЗАЦЫІ

У абшырнай зале УГКТ у Пярэмышлі каля трох гадзін ішоў канцэрт, прысвечаны 50-годдзю заснавання СССР. Арганізаваў яго Ваяводскі Аддзел Украінскага грамадска-культурнага таварыства. З прамовай выступіў Яраслаў Стэха. Затым адбыўся канцэрт, у якім выступілі: эстрадны калектыў «Лэмковына» (прадстаўляў ён павятовы аддзел УГКТ у Горліцах), дзіцячы хор з Ганьчовай, капела з Маластова, эстрадны калектыў «Ославяны» з сяла Мокрэ Саноцкага павету, а таксама пярэмышльскія калектывы — «Бэскыды» і «Сыня Лэнточка». У вельмі цікавай і багатай праграме выконваліся фальклорныя песні, танцы і сучасныя песні Украіны. Зала была запоўнена публікай, якая жыва рэагавала на выступленні артыстаў.

*Ваня Кірызюк*

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ 21.XI.72 у Праневічах Бельскага павету Мікалай Мойжык (30 год) з Засцянкаў Беластоцкага павету, кіруючы «Нысай» рыбнай цэнтралі ў Беластоку, наехаў на мясцовую жыхарку Варвару Антыпюк (72 гады). Жанчыну забралі ў бальніцу.

■ 23.XI.72 на шашы паміж Гайнаўкай і Збучом «Масквіч», якім кіраваў Канстанцін Сцепанюк (49 гадоў) з Шастакова, ударыў у зад фурманкі Кузьмы Баўтручука са Збуча. Была разбіта фурманка, паранены конь і кантужаны пасажыр фурманкі Мікалай Якімюк. Страты каля 25.000 зл.

## § КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У часе супольнага жыцця муж і жонка купілі прыватнай умовай участак зямлі. У 1970 годзе яны ўзялі развод, і ўчастак застаўся ў карыстанні мужа. Цяпер муж і жонка хочуць падзяліць маёмасць, якую яны набылі ў часе супольнага жыцця. Паводле закону з 26.X.1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці зямлі, купленай у форме натарыяльнага акту, трэба мець яе ў сваім карыстанні 4 лістапада. Жонка не мела зямлі ў карыстанні ў гэтым дні. Ці набыла яна ўласнасць гэтай зямлі?

АДКАЗ: *Для набыцця ўласнасці ўчастка зямлі* згодна з законам з 26.X.1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак патрэбны дзве ўмовы: купля ўчастка нефармальнай умовай і факт карыстання з зямлі ў дні, ад якога абавязвае закон з 26.X.1971 г., г. зн. у дні 4.XI.1971 г. У апісаным выпадку адсутнічае другая ўмова, бо жонка адышла ад мужа перад гэтай датай, а пасля разводу маёмасць, якую набывае муж або жонка, не з'яўляецца іх супольнай уласнасцю. З гэтага можна было б заключыць, што ўласнасць участка набыў толькі муж. Аднак Вярхоўны суд заняў адменнае становішча. Суд палажыў націск на час заключэння нефармальнай умовы. Закон з 26.X. 1971 г. санкцыяніруе гэткія ўмовы. Значыць, калі нефармальная ўмова куплі ўчастка зямлі заключана ў часе супольнага жыцця мужа і жонкі, то ўчастак становіцца з днём уваходу ў жыццё закону з 26.X.1971 г. іх супольнай уласнасцю, хоць бы былі яны ў гэтым дні разведзенымі.




*Анатоль Верамеюк, Бельск.* «Зіму» пастараемся змясціць у «Парнасіку».

*«Бэатка».* На жаль, «Лянівага аўтобуса» надрукаваць не можам. Сатырычны верш патрабуе такой самай умеласці, калі не большай, як звычайны. Лепш крытыкуй такія з'явы прозай. Хоць у канкрэтным выпадку, калі гутарка ідзе аб аўтобусе, які рана ідзе праз Клейнікі, дык тут хіба і добрая дубінка не паможа. Мы ўжо яго крытыкавалі. Значыць, ён не толькі лянівы, але і ўпарты.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Koledzy" (radz.), 19—20. „Dawid Copperfield" (angl.), 21—22. „Jaskółki" (węgierski),23—24.

**Нараўка**
„Uciec jak najbliżej" (polski), „Krzyżacy" (polski), 20—24.

**Нарва**
„Orzeł w klatce" (polski), „Oczami przyjaciół" (polski), 20—24.

**Чыжы**
„Tylko jeden telefon" (węgierski), „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 20—24.

**Дубічы Царкоўныя**
„Nie można żyć we troje" (angl.), „Prawdzie w oczy" (polski), 20—24.

**Арэшкава**
„Przyjęcie" (rumuński), „Aleksander Newski" (radz.),23—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Akcja „Brutus" (polski), „Narkotyk" (franc.), 20—24.

**Орля**
„Przygody misia Yogi" (USA), „Przystań" (polski), 20—24.

**Райск**
„Zbrodnia i kara" (radz.), „Jutro na orbitę" (radz.), 20—24.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Wielka miłość" (franc.), 19—20. „Gniewna podróż" (bułgarski), 21—22. „Ktoś za drzwiami" (franc.), 23—24.

**Шудзялава**
„Queimada" (włoski), „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 20—24.

**Янаў**
„Agent Nr 1" (polski) 22—24.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Tylko jedno życie" (radz.), 19—20, „Żandarm z gór" (bułg.), 21—22, „Nie lubię poniedziałku" (polski), 23—24.

**Мельнік**
„Hugo i Józefina" (szwedz.), 19—20, „Pociąg na tyły" (radz.), 21—22, „Czym mogę służyć" (czeski), 23—24.

**Мілейчыцы**
„Ktoś za drzwiami" (franc.), 19—20, „Ostatni watażka" (bułg.), 21—22, „Poszukiwanie" (hiszpański), „Niech bestia zdycha" (franc.), 23—24.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Zaraza" (polski), „Czarownica z bagien" (radz.), 22—24.

**Новы Двор**
„Pożądanie zwane Anada" (czeski), „Wydra pana Grahama" (czeski), 22—24.


**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6.913 T-3

